**Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзь, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 4 (4769)**

17 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час!**

**Рэдакцыя.**

ПРАКЛЯТАЯ ВАЙНА

# Жудасная трагедыя ў Дняпры

Пра тое, як на Стары Новы год расійскія агрэсары “павіншавалі” ўкраінцаў ракетнымі абстрэламі, ведае ўвесь белы свет. Вынікам іх стала жудасная трагедыя ў Дняпры – ракета трапіла ў шматпавярхоўку, у выніку чаго абрынуўся цэлы пад’езд.

Па стане на другую палову панядзелка было вядома, што загінула 40 чалавек (з іх – трое дзяцей); траўмаваны 75 чалавек (з іх – 15 дзяцей); выратаваныя 39 чалавек (з іх – 6 дзяцей). Ратавальная аперацыя ўчора працягвалася.

Паглядзіце на гэтыя фота і ўспомніце, што яшчэ нядаўна расіяне называлі украінцаў братамі. Сёння яны бязлітасна забіваюць гэтых братоў. І старых, і малых. Забіваюць толькі за тое, што ўкраінцы хочуць быць гаспадарамі на сваёй зямлі, хочуць самі вырашаць свой лёс. Хочуць вольна жыць, а не выжываць у абдымках імперыі.

Праклятая вайна, учыненая супраць Украіны больш дзесяці месяцаў таму крамлёўскімі ястрабамі, павінна быць спынена ўсім сусветным цывілізаваным чалавецтвам. І нам, беларусам, нельга дазволіць, каб у будучым з тэрыторыі нашай краіны паляцела ў бок Кіева хоць адна ракета, а беларуска-ўкраінскую мяжу пераступіў хоць адзін расійскі захопнік.









СКАЗАНА!

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*– Нарэшце многія-многія людзі пачалі разумець, што яны нідзе не патрэбныя, акрамя сваёй зямлі. Нават і тыя, якія ўцяклі з Беларусі, сёння тысячамі звяртаюцца да нас, каб іх вярнулі назад на радзіму. Мы нікога не выганялі з Беларусі. Гэта такая ж іх зямля, як і наша. Але яны шукалі лепшага жыцця, па розных прычынах беглі адсюль. Надышоў час, калі мы, прадстаўнікі ўлады, – я як кіраўнік дзяржавы і вы, святары, нашы людзі – павінны зрабіць крок насустрач гэтым людзям, якія не тое ашалеўшы, не тое на нейкі час страціўшы арыенціры, памыліліся. І будзе, напэўна, па-нашаму, па-праваслаўнаму, калі мы гэты крок насустрач ім зробім.*

*(Падчас наведвання 7 студзеня 2023 года Свята-Елісавецінскага манастыра на свята Божага нараджэння.)*

*– Наш выбар – стварэнне... Менавіта такім мы хочам бачыць 2023 год – Годам міру і стварэння. І не толькі на сваёй зямлі. Сёння гэта разумеюць нават тыя, хто яшчэ ўчора супрацьпастаўляў сябе дзяржаве, выступаў супраць, як яны кажуць, рэжыму. А сёння яны бачаць у такім рэжыме сваё выратаванне. Працэнтаў дзевяноста тых… Я ўжо казаў пра гэта ў храме. Мы да гэтага гатовыя. У якой форме гэта будзе, які шлях яны павінны прайсці назад да сябе дадому – вам вызначаць.*

*(З прамовы на святочным прыёме на Стары Новы год.)*

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Няма большай пагрозы для краіны, чым «паляванне на ведзьмаў»

Яшчэ нядаўна беларускія ўлады клапаціліся выключна пра ўкраінскіх ды сірыйскіх бежанцаў, уцекачоў з іншых гарачых “кропак”. Але дайшла чарга ўспомніць і пра сваіх. Вайны ў Беларусі няма, а бежанцы ёсць. І гэта не тыя, хто заблытаўся ці шукаў лепшага жыцця, бо такім вярнуцца нішто не перашкаджае. Гэта палітычныя ўцекачы – тыя, хто пакідаў Радзіму, асцерагаючыся арышту і рэпрэсій.

Аляксандр Лукашэнка заяўляе, што ўлады гатовы зрабіць крок ім насустрач і даручае сваім падначаленым вызначыць, якім будзе гэты крок. Але цяжка ўявіць таго смелага чалавека ў атачэнні Аляксандра Лукашэнкі, які здолее на прамое пытанне: “Што рабіць?” даць прамы адказ – “Абвясціць палітычную амністыю, дараваць”.

Проста таму, што пасля такога адразу будзе занесены ў спіс нядобранадзейных, тых, хто спачувае апазіцыі. Можа паплаціцца і статусам, і пасадай.

Так, прамое пытанне было зададзена ў эфіры тэлеканала СТВ члену Савета Рэспублікі, рэктару Акадэміі паслядыпломнай адукацыі **Алегу Дзячэнку.** І вось яго адказ:

*“Гэтыя людзі, на мой погляд, павінны стварыць годны плод пакаяння. Знаходзячыся за мяжой, яны павінны зрабіць крокі насустрач нашай краіне. Якія гэта могуць быць крокі? Яны могуць прыняць удзел у розных мерапрыемствах за мяжой у падтрымку нашай дзяржавы. Яны крычалі аб увядзенні санкцый. Хай цяпер папрацуюць на тое, каб зняць гэтыя санкцыі. Хай правядуць мітынгі ў Варшаве, Вільнюсе, іншых заходніх дзяржавах за зняцце неправамерных, неабгрунтаваных санкцый супраць нашай краіны. Хай папрацуюць на нашу краіну, на сваю радзіму, якую яны кінулі, з якой яны з’ехалі, якую яны палівалі брудам за мяжой…”*

І спадар Дзячэнка дадаў, што тыя, хто «сапраўды раскаяўся», павінны стварыць, «як сказана ў Евангеллі, годны плод пакаяння»... “А мы, беларусы з хрысціянскай душой, далей паглядзім”.

Як бачым, для Алега Дзячэнкі відавочна, што беларусам, якія з’ехалі, трэба даць магчымасць вярнуцца на радзіму. Але прама ён гэтага сказаць не можа, аздабляе сваю пазіцыю умовамі і ўмоўнасцямі. Ён не можа сказаць і пра тое, чаму сотні тысяч людзей вымушаны былі пакінуць Беларусь. Ён нават баіцца адкрыта сказаць пра масавыя фальсіфікацыі, якія адбываліся падчас падвядзення вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах і што падштурхнула людзей выйсці на пратэстныя акцыі.

Заўважым, для тых, хто сапраўды з хрысціянскай душой, галоўнае не “паглядзім”. Галоўнае – уменне дараваць. Не дарма ж, згодна з Евангеллем, апошнія словы, якія сказаў Ісус Хрыстос у сваім зямным жыцці, – распяты, у перадсмяротных пакутах – быў заклік да даравання. “Ойча, даруй ім, бо ня ведаюць, што робяць!” – такімі, згодна з Бібліяй, былі апошнія словы таго, на каго спасылаецца Алег Дзячэнка. Ды што яму да святой запаведзі?!

Так што сапраўды па-хрысціянску – гэта ўменне дараваць.

Але нават калі не ўдавацца ў рэлігію… Чаму прэзідэнт Казахстана **Сапар-Жамарт Такаеў** абвясціў амністыю для ўдзельнікаў крывавых падзей, якія адбыліся ў краіне ў студзені мінулага года? Чаму асабіста адкрываў мемарыял ахвярам тых падзей (падрабязней чытайце на стар.5)?

Таму што мудры палітык разумее, што няма большай пагрозы для краіны, чым “паляванне на ведзьмаў”. Страх – гэта тое, што паралізуе і кожнага асобнага чалавека, і грамадства.

2023-ы год абвешчаны ў Беларусі Годам міру і стварэння… Дык вось, жывучы ў страху памыліцца, засвяціцца, не тое сказаць, не там пабываць, нічога ствараць немагчыма. Творцы, стваральнікі, наватары – гэта выключна вольныя людзі. Вольныя і ў ідэях, і ў думках, і ў дзеяннях.

Так што беларускай уладзе трэба выбіраць: альбо працягваць кампанію рэпрэсій за вольнадумства, альбо браць курс на мір, стварэнне і развіццё.

Хто з падначаленых скажа пра гэта Аляксандру Лукашэнку? Хто адважыцца?

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Закрыты суд над Пачобутам

16 студзеня ў Гродзенскім абласным судзе пачаўся закрыты суд над журналістам-палітвязням Андрэем Пачобутам. За кратамі ён знаходзіцца ўжо амаль два гады.

Андрэя Пачобута абвінавачваюць паводле арт.361 КК – заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь і арт.130 КК – распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці або варажнечы.

Андрэй – не толькі журналіст, ён адзін з лідараў беларускіх палякаў.

На судзе А.Пачобут выглядае схуднелым.



ВІНШУЕМ!

# Урокі Міколы Чарняўскага

## 16 студзеня вядомаму пісьменніку споўнілася 80 гадоў



Шкада мне сённяшніх паэтаў-пачаткоўцаў. Куды ім падацца з першымі вершамі? Быў часопіс "Першацвет", ды камусьці стаў замінаць, і яго ціхенька пахавалі. Была маладзёвая газета "Чырвоная змена" з моцным літаб'яднаннем пры ёй – не стала ні газеты, ні літаб'яднання. Выходзіла пры часопісе "Маладосць" бібліятэчка – стартавая пляцоўка для маладых творцаў, але ў незалежнай Беларусі і на ёй вырашылі зэканоміць…

Шмат пра што ў сучаснай Беларусі можна сказаць "быў", "была". Газетнай калонкі не хопіць, каб усё пералічыць. Прычым знікае найперш усё беларускае, гэта відавочна. З другога боку, ёсць усеахопны інтэрнэт, з якім падлеткі сябруюць ледзь не з немаўлячага ўзросту. Публікуй там што хочаш і колькі хочаш. Так, інтэрнэт – гэта свабода і раздолле. Але пачаткоўцу не раздолле трэба, а падказка, парада, падтрымка дасведчанага настаўніка.

Такім настаўнікам для сотняў юных талентаў доўгі час быў Мікола Чарняўскі. Праз яго клапатлівыя рукі ў часопісе "Бярозка" за дваццаць гадоў прайшло безліч юных паэтаў. У тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Нас, пачаткоўцаў, у часопісе называлі падбярозавікамі. І гэта было прыемна. Не баравікі пакуль, але і падбярозавікі – грыбы харошыя.

Мікола Чарняўскі з кожным "падбярозавікам" ліставаўся. Пісьмы былі на рэдакцыйным бланку, але пісаныя ад рукі і зусім не казённыя. Наадварот, яны праменіліся дабрынёй і спагадай. І не было ў іх ні грама ніякага ментарства. Атрымліваў тыя пасланні дабрыні і я, і да гэтай пары захоўваю іх як памяць пра шматспадзеўнае юнацтва. Думаецца, падобных лістоў Мікалай Мікалаевіч напісаў тысячы. У наш рашуча неэпісталярны час гэта камусьці здасца марнатраўствам, маўляў, лепш сваё пісаў бы. Але ў тых лістах якраз і была завочная паэтычная школа, якой так не хапае сённяшнім пачаткоўцам.

Я не ведаю другога беларускага пісьменніка, які столькі ўласнага часу траціў бы на маладыя парасткі. Як дбайны садавод Мікола Чарняўскі ўзрошчваў свой паэтычны сад і радаваўся, калі ён даваў першыя плады – дэбютныя кніжкі гадаванцаў.

А колькі юных талентаў адкрыта ім у літсуполцы "Купалінка", якая апекавалася падлеткамі Міншчыны, у радыёперадачы "Першыя сцяжынкі", якая выходзіла ў эфір гадоў трыццаць! Правадное радыё тады было падведзена пад кожную хату, у кожную кватэру і часам не змаўкала з раніцы да вечара. Удзельнікаў перадачы чула ўся Беларусь! І праваднога радыё з нядаўняга часу не стала, анямелі старыя дынамікі ў малалюдных вясковых хатах…

Мікола Чарняўскі працягваў цікавіцца сваімі гадаванцамі і пазней, калі яны з першых сцяжынак узбіваліся на сваю дарогу. У гэтай сувязі хачу расказаць пра адзін выпадак. 1986 год. Я, учарашні першакурснік філфака БДУ, служу ў войску. Сцюдзёная снежная зіма ў прыкарпацкім гарыстым лесе, куды наша дэсантна-штурмавая брыгада кінутая, як нам здавалася, на выжыванне. Мароз пад дваццаць градусаў, мы спім проста на снезе ля вогнішчаў, нацягнуўшы на бушлаты камбінезоны хімабароны. З аднаго боку прыпякае, з другога – замярзаем. Даядаем сухпайкі, кухня і пошта ў горы не даязджаюць.

І раптам радасная пагаласка разносіцца па лагеры – з верталёта скінулі пошту. "Хто ад маці, хто ад жонкі, кожны вестку атрымаў…" І мне з маёй старонкі прыляцела пісьмо – падазрона таўставатае. Разрываю канверт, а там – кніжка "Камар на матацыкле" з надпісам: "Дарагому Мішу Скоблу – на добрую ўсмешку, на добры настрой. Няхай усё будзе, як у людзей… Ад шчырага сэрца – Мікола Чарняўскі. 10.XII.1986".

Як жа мне тады пацяплела на душы! Здавалася, і мароз адступіўся, і калючы вецер палагаднеў. Грэўся я сам родным беларускім словам, грэў і сваіх саслужыўцаў-украінцаў. Чыталі мы таго "Камара…" ўслых пры вогнішчы да глыбокай ночы. І потым ён служыў са мною да самай мабілізацыі, той вясёлы цывільны "Камар…". Ён і сёння не згубіўся на маіх перанаселеных кніжных паліцах.

Не пералічваю другіх кніг, што выйшлі з-пад пяра Міколы Чарняўскага, – іх шмат. Відаць, кожная камусьці ў рукі трапіла таксама своечасова. Магчыма, нехта засынаў з аповесцю "Бегунок пачынае думаць" пад падушкай. Хтосьці з дзіцячага садка ўпадабаў "Сонца ў хованкі гуляе". Некаму казачнымі сузор'ямі асвяцілі маленства "Зоркі-зорачкі". Кагосьці да рогату смяшыў гумарыстычна-сатырычны "Лёкса ў люксе".

Не цытую твораў Міколы Чарняўскага, бо гэта амаль немагчыма. Як можна працытаваць вершаваную казку? Казкі ўвогуле ўпарта не цытуюцца, яны просяцца быць прачытанымі з пачатку да канца. Не цытуюцца і вершы-жарты, вершы-паказкі, іх трэба прачытаць цалкам. Вышчыкні з іх пару радкоў, і прападзе ўвесь цымус.

Не называю ўсіх узнагарод, атрыманых Міколам Чарняўскім, – іх таксама нямала. Ведаю, што Мікалай Мікалаевіч ганарыцца медалём Францішка Скарыны. Думаю, што і Скарыну прыемна мець такога лаўрэата – адданага роднай мове, роднай літаратуры, роднай зямлі. Чароўнага казачніка, беларускага ад макаўкі да пят паэта і выдатнага настаўніка, чые літаратурныя і чалавечыя ўрокі і праз дзясяткі гадоў з удзячнасцю памятаюць шматлікія вучні.

**Міхась СКОБЛА.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

# Што вядома пра затрыманне Андрэя Дзмітрыева?

У мінулую пятніцу Следчы камітэт падцвердзіў затрыманне экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Дзмітрыева.

*"Сталічнымі следчымі працягваецца праца па выяўленні арганізатараў і выканаўцаў злачынстваў экстрэмісцкай накіраванасці, у тым ліку масавых беспарадкаў і вулічных пагромаў на тэрыторыі Мінска. Падчас правядзення неадкладных следчых дзеянняў было ўстаноўлена, што былы палітык Андрэй Дзмітрыеў прымаў актыўны ўдзел у вулічных беспарадках, якія праходзілі на тэрыторыі сталіцы ў жніўні-верасні 2020 года.*

*Таксама ўстаноўлена, што падазраваны 599 разоў перасякаў дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь, з іх 33 – пасля 2020 года. Следства мяркуе, што наяўнасць кантактаў у Дзмітрыева з прадстаўнікамі Захаду і ЗША, можа сведчыць аб каардынацыі яго "палітычнай" дзейнасці з-за мяжы. Маецца інфармацыя, што затрыманы кантактаваў з Дзяржаўным сакратарыятам ЗША і асабіста з яго былой кіраўніцай Хілары Клінтан"*, – пазначана ў паведамленні.

Навіна на дзяржаўных тэлеканалах суправаджалася фотаздымкамі Дзмітрыева з вулічных акцый (пры гэтым ні плакатаў, ні нейкай сімволікі ён не трымае, пагромаў на фота таксама не відаць) і фотаздымкам з Хілары Клінтан.

У паведамленні Следчага камітэта сказана пра "неадкладныя следчыя дзеянні". Але што "неадкладнага" можа быць у справе, звязанай з падзеямі двухгадовай даўніны? Можа, Дзмітрыеў спрабаваў выехаць з краіны і яго затрымалі на мяжы? Ці наадварот вяртаўся з сустрэчы з "прадстаўнікамі Захаду"?

Сяргей Вазняк, былы кіраўнік выбарчага штаба экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Дзмітрыева, сцвярджае, што палітыка затрымалі ў Мінску.

– Наколькі я ведаю, усё было карэктна. Затрымалі Андрэя прама на вуліцы, вечарам 11 студзеня. Дазволілі адвесці дадому сабаку, пераапрануцца, узяць неабходныя рэчы, – расказаў Сяргей Вазняк "Народнай Волі". – Што тычыцца распаўсюджанага Следчым камітэтам фота з Хілары Клінтан, то гэта старое фота, не сёлетняе, не мінулагодняе і нават не пазалеташняе. Я расцэньваю гэта як просты "чорны піар"...

Андрэй Дзмітрыеў, былы сукіраўнік ліквідаванай па ініцыятыве Мінюста кампаніі "Гавары праўду", апошнім часам узначальваў аргкамітэт па стварэнні "Нашай партыі".

**Ігар МАРОЗАЎ.**

С ПОЛИЧНЫМ!

# Доохотились...

## В Столинском районе изобличили группу браконьеров

В УСК по Брестской области установили обстоятельства деятельности группы браконьеров из Столинского района, сообщил БЕЛТА официальный представитель УСК Роман Зармаев.

По данным следствия, 25 января 2022 года недалеко от деревни Стахово сотрудники инспекции охраны животного и растительного мира задержали четверых мужчин, документы на охоту у которых не были оформлены должным образом. При осмотре прицепа автомобиля были обнаружены свежие следы крови. Вскоре инспекторы обнаружили трех отстреленных лосей. Одно животное охотники добыли законно, остальные отстрелены в зоне покоя, где охота запрещена. Ущерб превысил 57 тысяч белорусских рублей.

Также при осмотре смартфонов обвиняемых у одного из мужчин были обнаружены фотографии ружья с глушителем. Выяснилось, что в ноябре 2021 года обвиняемый вместе с подельником приобрели компонент огнестрельного оружия за рубежом и незаконно перевезли на территорию Беларуси. В ходе обыска правоохранители обнаружили и изъяли глушитель.

В мобильном телефоне руководителя охоты – владельца фермерского хозяйства – обнаружены фотографии лосей, отстреленных охотниками 4 декабря 2021 года. Выяснилось, что руководитель охоты не оформил соответствующим образом факт добычи животных, но получил выручку за каждого.

Под тяжестью неопровержимых доказательств некоторые мужчины признались в совершенных преступлениях и частично возместили ущерб. На их имущество наложен арест на сумму более Br200 тыс. В зависимости от установленных фактов противоправной деятельности фигурантов им предъявлены обвинения по ряду статей Уголовного кодекса. Двух обвиняемых с санкции прокурора заключили под стражу, к остальным применена мера пресечения в виде подписки о невыезде.

*(БЕЛТА)*

ГУЧНАЯ СПРАВА

# «Баюся пабачыць тэрміны 10–12 гадоў прынамсі для Марыны і Людмілы...»



У Мінску працягвецца суд над былымі кіраўнікамі найбуйнейшага беларускага інтэрнэт-партала Марынай Золатавай і Людмілай Чэкінай. У дзяржаўных СМІ з'едліва пішуць, што былыя калегі не ходзяць на працэс падтрымаць жанчын. Забываючыся ўдакладніць, што гэта і немагчыма, бо суд закрыты.

Чаго чакае ад працэсу сузаснавальнік партала, дацэнт Еўрапейскага гуманітарнога універсітэта **Кірыл Валошын**?

– Нічога добрага ад гэтага суда мы не чакаем і спадзеваў ніякіх няма, – паведаміў ён радыё Wnet. – Па іншых падобных судах мы бачым, як ворагі дыктатуры «узнагароджваюцца» максімальнымі тэрмінамі па тых артыкулах, што ім прад'яўляюць. Баюся пабачыць тэрміны 10-12 гадоў прынамсі для Марыны і Людмілы.

**– Ці можа паўплываць на прыгвор факт пакрыцця страты?**

– Па-першае, наколькі мне вядома, ні Марына, ні Людміла не пісалі прашэння аб памілаванні. Па-другое, тая нібыта страта, што мы пагасілі і тая нібыта прававая кампенсацыя, што мы таксама аплацілі, адносяцца да эканамічнага артыкула. А два астатнія артыкулы, што ім прад'явілі, якія тычацца быццам распальвання варожасці, нанясення нібыта шкоды іміджу краіны альбо "кіраванне" народнымі масамі на вуліцы, матэрыяльных кампенсацый не прадугледжваюць.

**– А калі б журналісткі напісалі прашэнне аб памілаванні, ці прынесла б гэта ім нейкую палёгку?**

– Не думаю. Бо гэта адзін з паказальных судоў, кшталту тых, што праводзілі над праваабаронцамі ці членамі штабу Віктара Бабарыкі. Мэта гэтага суда не толькі парадаваць кагосьці з пакрыўджаных ва ўладзе, але і прыгразіць астатнім. Гэты суд павінен прадэманстраваць нецярпімасць да іншадумства і да незалежных медыя.

**– Якая ў вас зараз існуе сувязь з былымі калегамі?**

– Чым далей, тым сувязь пагаршаецца. Часам гэта звязана з апасеннем адвакатаў і нежаданнем родных выносіць інфармацыю. Таксама пенітэнцыярная сістэма робіць усё магчымае, каб інфармацыя аб стане вязняў не з'яўлялася. Наколькі мне вядома, дзяўчыны, як і раней трымаюцца годна і паказваюць моц духа і волі. Здароў'е хоць не крытычна, але пагаршаецца. Але, як і ўсе моцныя людзі, яны знаходзяць у сябе сілы падтрымліваць іншых праз лісты.

**– Як пачуваюць сябе сем'і зняволеных, ці аказваецца на іх ціск?**

– У нас няма ніякіх звестак і даказаных фактаў датычна ціску на сем'і. Спадзяюся, што і надалей іх не будуць чапаць і пераследаваць.

ДА ВЕДАМА

### Некалі самы папулярны і буйны інтэрнэт-партал Беларусі прызнаны экстрэмісцкай арганізацыяй, яго цяпер нават нельга называць

Галоўнага рэдактара Марыну Золатаву, а таксама рэдактараў Вольгу Лойку і Алену Талкачову абвінавачваюць у дапамозе ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, распальванні сацыяльнай варожасці і варожасці, распаўсюдзе матэрыялаў з заклікамі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь. КДБ унёс іх у так званы "спіс тэррыстаў".

Юрысконсульт Кацярына Ткачэнка абвінавачваецца ў дапамозе ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, актыўным удзеле ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Лойка, Талкачова і Ткачэнка былі вызвалены з СІЗА пд падпіску пра нявыезд, але пакінулі Беларусь. Іх абвясцілі ў вышук.

ТЫМ ЧАСАМ

### «Рэпарцёры без межаў»: Гэты судовы цырк павінен скончыцца

«Як можа рэдактар, паважаны за свой прафесіяналізм, прадстаўляць пагрозу нацыянальнай бяспецы Беларусі? – заявіла кіраўнік аддзела RSF па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі **Жана Кавелье**. – Марыну Золатаву прымушаюць абараняцца ад недарэчных абвінавачванняў за зачыненымі дзвярыма ў судзе... Гэты судовы цырк павінен скончыцца. RSF заклікае вызваліць гэтую вядучую беларускую журналістку, на якую ганебна навесілі ярлык «тэрарысткі».

**Іван ШАЎЛЮК.**

SOS!

# Замініраваны ўвесь прыгранічны перыметр

Паводле слоў кіраўніка абласной вайсковай адміністрацыі Ровеншчыны **Віталя Коваля**, на мяжы з Беларуссю ўзведзены моцныя абарончыя збудаванні.

*«На поўначы актыўна будуем інжынерныя і фартыфікацыйныя збудаванні. Супрацьтанкавыя равы. Усе 229 сумесных кіламетраў з Рэспублікай Беларусь ўмацоўваюцца настолькі, каб расійскія войскі не змаглі прайсці ўглыб нашага рэгіёна. Калі ўлады Беларусі дадуць магчымасць ім пачаць наступ».*

Коваль дадаў, што поўнач Ровенскай вобласці – гэта суцэльныя лясы і балоты.

«Толькі вар'ят адважыцца палезці ў гэты, як мы называем, «Палескі кацёл». Поўнач Ровеншчыны ператворыцца ў крывавыя балоты, калі Расія адкрые яшчэ адзін фронт з боку Беларусі», – выказаўся ён.

ДАРЭЧЫ

### Якія могуць быць правакацыі Украіны, калі яна на мяжы са свайго боку ўзводзіць абаронныя збудаванні?

Вось дык рэбус: украінцы актыўна ўзводзяць на мяжы з Беларуссю абаронныя збудаванні, а **Павел Муравейка**, першы намеснік сакратара Савета бяспекі РБ заяўляе ў эфіры тэлеканала СТБ:

*– Да любых правакацыйных дзеянняў з боку Украіны мы гатовы. Так, сапраўды, на нашых паўднёвых граніцах цяпер не вельмі спакойна. Але, як патрабуе кіраўнік дзяржавы, мы захоўваем вытрымку і цярплівасць, трымаем порах сухім, маем неабходны камплект сіл і сродкаў, якія адрэагуюць на любыя праявы агрэсіўнасці або тэрарыстычнай пагрозы на нашай тэрыторыі.*

АНТЫРЭКЛАМА

# Паэзія ад... камунальшчыкаў

Незадоўга да новага 2023 года на ўнутраных дзвярах нашага аднапад'езднага дома на два з паловай дзясяткі кватэр з'явіўся белы аркуш паперы з надрукаваным, пэўна, на прынтары невялікім тэкстам. Напнуў акуляры, стаў чытаць – і цёплая хваля лагоды і замілавання падкацілася да грудзей. Так далікатна і шчыра, прастатакі з мацярынска-бацькоўскім клопатам камунальная служба да нас, жыхароў, яшчэ не звярталася. Калі што-якое, непаладкі там з вадою, электрычнасцю ці, крый божа, з газам, хваляваца, а тым больш палохацца не трэба. Вершаваная цытата на мове арыгінала:

*«Если в доме случилась беда:*
*Вдруг из кранов пропала вода.*
*Не спешите сразу пугаться,*
*Позвоните по телефону СТО ПЯТНАДЦАТЬ».*

Афармлены парнай рыфмаю і іншыя пажаданні. Газам запахла ў кватэры – тэрмінова ў 104, святло знікла ў доме ці кватэры – набірайце 144. Калі ж тынкоўка паляцела са сцяны – тэлефанаваць не трэба, збірайцеся і дружна рамантуйце самі. Ну і на дадатак, як сказана, на ўсялякі выпадак тэлефоны: ЖЭУ-3 (3450890), КЖЭРУП «Цэнтральнае» (342730) і нават аддзела па рабоце з грамадзянамі адміністрацыі Цэнтральнага раёна Гомеля (316121).

Наўмысна не прыводжу ўсе іншыя вершаваныя прапановы для меланхалічна спакойнага жыцця гараджанаў, бо сілаба-танічная метрыка ў іх яшчэ больш парушана, чым у згаданым вышэй чатырохрадкоўі. Дый, шчыра кажучы, не ў паэзіі справа, хоць і жыву я па вуліцы Пушкіна. Усяму галава – практыка.




## Фагот чыгуннай трубы

Заглянуў неяк раз пасля паэтычнага паведамлення ў падвальнае памяшканне свайго дома №22а, а там – жах! – лючок для чысткі і рэвізій ад каналізацыйнай трубы-стаяка валяецца на цэментнай падлозе. Гэта акурат пад кватэрай №3. З раскрытай зяпы трубы раз-пораз выбіваюцца нечыстоты. Канешне, набраў 115 – цэнтралізаваную дыспетчарскую камунальнай службы гарвыканкама. Чаму не, а не ЖЭУ-3? Ды ўсё проста: была нядзеля, а ў выхадны дзень жыллёва-эксплуатацыйны ўчастак не працуе.

Аварыйная гарадской ЖКГ прыехала гадзінаў праз пяць. Хоць і без рыфмы, але разам з аварыйшчыкамі «праскланялі» па падзяжах сантэхнікаў з ЖЭУ-3, што чысцілі каналізацыйны стаяк, а чыгунны лючок у ім не закрылі ці не зацягнулі на балты-гайкі. З-пад таго лючка, бывала, і раней выцякала каламуць, але фантанаў не было. Прыходзілі сантэхнікі і ўтаймоўвалі цечу. А тут – не, не флейта, а сапраўдны фагот вадасцёчнай трубы.

## Нячысцік пад домам

Мінула колькі часу, адмыслова заглянуў у падвал. У доме я, лічы, абарыген, жыву з першага дня засялення ў 1984 годзе. І што бачу: невялікі ручаёк цурчыць з каналізайнага стаяка, акурат з-пад таго самага лючка. Быццам нячысцік сядзіць там і ступеніць беспрастанку. Больш за тое, у пяці кроках ад «нячысціка», пад кватэрай №5, пацякла вада з трубы, абматанай сінтэтычнай тканінай. Зняў пальчаткі, падставіў палец – халодная. Нават балотца на цэментнай падлозе ўтварылася.

«Сто пятнаццаць» ужо не стаў набіраць. Патэлефанаваў з ранку у свой ЖЭУ-3, дзе ёсць так званы «вытворца работ», іншымі словамі, дыспетчар, што прымае званкі пра непаладкі ў жыллёвым фондзе.

– Перадам заяўку сантэхнікам, – запэўніла дзяўчына, якая назвалася Дар'яй.

Бліжэй да сыходу працоўнага дня зноў патурбаваў вытворцу работ, бо ніякія сантэхнікі зліквідаваць цеч не прыходзілі.

– Заявак шмат. Павінны прыйсці. Я перадала, – патлумачыла Дар'я.

## Весела... да сэрцабіення

Аднак і на наступны дзень сантэхнікаў не было. Мінуў і яшчэ дзень. Нідзе анікога. Урэшце 13 снежня зноў набраў 115. Прыемны жаночы голас падзякаваў за тэлефанаванне і неабыякавае стаўленне да праблемаў ЖКГ. Ну хоць садзіся і паэму пішы пра тое, як залагодзілі душу. Выкшталцона так, высокімі словамі. Чыстая паэзія.

Калі праз тры дні ўзнёслась асела, высветлілася, што бруд ды халодная вада па-ранейшаму заліваюць падвал. Паспрабаваў звязацца з намеснікам дырэктара КЖЭРУП «Цэнтральнае» **Аляксандрам Дробышавым**, адказным за ўтрыманне дамоў і добраўпарадкаваннем тэрыторый. Ён увесну досыць аператыўна адрэагаваў на адарваны ветрам парапет і непарадкі з доглядам прыдваровай тэрыторыі. На жаль, намесніка на месцы не было, а ягоная сакратарка Ірына з усёй сур'ёзнасцю заявіла: «Усе перадам Аляксандру Аляксандравічу, не хвалюйцеся».

Я ўжо не хваляваўся, рабілася весела, часам нават да сэрцабіення. На паэзію замыкала. Ну, выходзіць, без вады нам ні туды і ні сюды.

Зноў тэлефаную ў ЖЭУ-3. Пачынаю, што называецца, ад печкі.

– Зволнілася Дар'я, не вытрымала. Я зноў на гэтым месцы, – кажа вытворца работ **Надзея Уладзіміраўна**, якая даўно працуе ў ЖЭУ-3. – Прыйдуць сантэхнікі, ім перадам заяўку.

## Інфармацыя ЖЭУ

У падвале я, канешне, не начаваў, але перыядычна заглядваў туды. Зірну на дзверы з паэтычнай інфармацыяй ад КЖЭРУП (ці аддзела па рабоце з грамадзянамі адміністрацыі Цэнтральнага раёна) і нібы магнітам цягне ў падвал. Рамантавалі? Не рамантавалі!

За колькі дзён да новага году чарговы раз набраў нумар 115. Паслухаў музыку, пачакаў злучэння. Абмаляваў сітуацыю.

– Дык вы ж ужо тэлефанавалі нам, – цалкам лагодна і нават з нейкім спачуваннем адказала аператарка, якая назвалася **Таццянай**. – У мяне тут інфармацыя з ЖЭУ-3 – непаладкі ліквідаваны.

Нават не з рукі пярэчыць жанчыне з лагодным голасам, але пярэчу. Што там паведамілі з участка, не ведаю. Але вада як бруілася ў двух месцах, так і бруіцца.

Аператарка заспакоіла, што заяўка будзе перададзена ў ЖЭУ-3, а мне будзе паведамлена дадаткова пра вынікі. Не паведамлена.

## Не паэтычная арыфметыка

Сёння ўжо 17 студзеня. Мінуў месяц з дня маіх паэтычных стасункаў з камунальнай службаю. У каналізацыйным стаяку, праўда, заўважыў перамены: лючок для рэвізіі, падобна на тое, запенілі, але брудная вада ўсё адно сочыцца з-пад муфты злучэння. А пітная вада ўжо беспералынным струменем ліецца на падлогу. Балотца ператвараваецца ў балота.

Калі браць пад увагу памятку для насельніцтва КВУП «Гомельвадаканал», то струменчык вады дыяметрам 2 міліметры – а з трубы выцякае нікольні не меншы – вылівае ў падвал за гадзіну 25 літраў, за суткі – 600, за месяц – 18 тысяч літраў, альбо 18 кубоў. Па сутнасці, месячная норма расходу вады на чатырох чалавек. Таму шкада, што паэтычных радкоў пра безгаспадарнае цурчанне вады бракуе на сталах начальнікаў ЖКГ ды шматлікіх куратараў гэтай галіны.

Імаверна чыноўнікам лепей апавядаць, што насельніцтва не поўнасцю аплочвае жыллёва-камунальныя паслугі і патрабаваць павелічэння тарыфаў, чым аддадзіць эфектыўную эксплуатацыю неспакойнай гаспадаркі. Ну цячэ тая вада тыдзень ці месяц, на галаву не ліе – і дзякаваць богу. «Балоты» ж у падвалах мала каму бачныя, нават у нас, у доме №22а, што за трыста метраў ад гарвыканкама і прыкладна за столькі ж ад адміністрацыі Цэнтральнага раёна.

## Пра «Арбат», дагледжаныя двары і пад'езды

На фоне паэтычнай творчасці ЖКГ і нашага падвальнага «забалочвання» ў горадзе змяніўся кіраўнік. Ранейшы старшыня гарвыканкама **Пётр Кірычэнка** пайшоў у адстаўку. На яго месца прызначаны **Уладзімір Прывалаў**, які да гэтага ў рангу намесніка старшыні аблвыканкама курыраваў сацыяльную сферу, у тым ліку і жыллёва-камунальную гаспадарку. У сваім тэлеграм-канале новы кіраўнік прапанаваў гараджанам выказвацца накошт усталявання ў горадзе пешаходнай вуліцы, гэткага своеасаблівага «гомельскага Арбата». Як напяваў паэт-бард, «Ах Арбат, мой Арбат ты – мая рэлігія...». Але ідэя пешаходнай вуліцы ў горадзе далёка не новая, узнімалася ўжо разы два ці тры. Словам, сякера пад лаўкаю. Разважлівыя гараджане заўважаюць, што трэба спачатку дабудаваць кінуты без фінансавання ўсходні абход, вывесці з горада транспартныя патокі, а потым думаць пра пешаходную вуліцу ды паэтаў з гітарамі на ёй. Як па мне, дык вельмі дарэчы была б і праграма ўпарадкавання двароў, пад'ездаў, падвалаў, адладжанае функцыянаванне камунальных службаў. Глядзіш, ад радасна ўзнёслага сузірання нараджаліся б цэлыя паэмы.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ. Гомель.**

**На здымку: паэтычная абвестка на дзвярах.**

ОФИЦИАЛЬНО

# Сколько работающих белорусов приходится на одного пенсионера?

С января 2003 года в Беларуси заработала система персонифицированного учета. На каждого работающего в огромной электронной базе данных открывается индивидуальный лицевой счет (ИЛС) и фиксируются сведения о всей трудовой деятельности, включая дату выхода на пенсию. Заносятся сведения, чтобы организовать безбумажное подтверждение мест работы и размеров заработка, на который начисляются страховые взносы.

Как сообщила управляющая Фондом социальной защиты **Юлия Бердникова**, в 2022 году сведениями, необходимыми для назначения пенсий и пособий, пополнялись 4,5 миллиона счетов. То есть такое количество граждан осуществляло трудовую деятельность.

Остальные лицевые счета открыты на граждан, которые уже достигли пенсионного возраста и получают пенсию, но еще осуществляют трудовую деятельность. Юлия Бердникова уточнила, что получателями пенсий являются около 2,4 миллиона человек.

Получается, что при солидарной пенсионной системе меньше двух трудящихся обеспечивают доход одного пенсионера.

**Алена НОВИКОВА.**

АРХИВ

# Суд человеческий и суд Божий

*Небольшой некролог в госСМИ: умер бывший судья Верховного суда Беларуси **Николай Иванович Герменчук**; соболезнования родным и близким.*

Николай Герменчук ушел в отставку в 2017 году, поэтому о нем сейчас мало кто помнит. Но это был судья, который выносил приговоры еще в Верховном суде Белорусской ССР. Это был человек, который долгое время входил в состав квалификационной коллегии по отбору кандидатов на должность судей. Это был человек, который как один из руководителей коллегии по уголовным делам Верховного суда выносил смертные приговоры.

Но нам в связи со смертью «Заслуженного юриста Республики Беларусь» вспомнилось одно из последних громких дел в его карьере – дело об убийстве члена Центризбиркома Светланы Хиневич в 2013 году. Именно судья Герменчук как председательствующий на заседании огласил вердикт: виновным в убийстве считать соседа Светланы Хиневич, ранее судимого наркомана Виталия Шостака и осудить его на 20 лет лишения свободы.

Почему вспомнилось это дело? Потому что мы сейчас имеем много поводов говорить о следствии и судах против оппонентов власти. Но в деле об убийстве члена Центризбиркома, казалось бы, следователи должны были землю рыть, а судьи – опираться на железные доказательства. А что было?

## Суть дела

54-летнюю Светлану Хиневич зарезали 4 августа 2013 года в собственной квартире. Ее тело нашел сын.

Следственные органы спустя несколько дней после трагедии сообщили, что **«совершенное преступление не связано с профессиональной и общественной деятельностью потерпевшей и носит бытовой характер. Установлен подозреваемый».**

Вскоре стал известно, что обвиняемый по делу – сосед Виталий Шостак, ранее судимый наркоман. Однако он свою вину не признал, писал апелляции, дело отправлялось на новое рассмотрение, пока Верховный суд и Николай Герменчук как председательствующий в заседании не поставили в нем точку.

## «Железные» доказательства?

Адвокатом Шостака был Владимир Печерский (теперь он один из тех, кого Минюст лишил лицензии). И мы просто приведем цитаты из его речи, сохранившейся в репортажах с того судебного процесса.

*«Мой подзащитный должен был идти на работу, но к тому времени в его голове уже созрел план ухода из жизни. Он приобрел 1,5 грамма вещества, которое должно было ему помочь покончить жизнь самоубийством, приехал к себе домой, закрылся в квартире, развел это вещество и ввел себе в организм. Потерял сознание, но потом очнулся. Понял, что не умер, и начал вскрывать себе вены. Затем пополз на кухню, взял два ножа и нанес себе около 200 различных повреждений».*

Тело Шостака нашла вернувшаяся с дачи мать. Тогда же в соседней квартире был обнаружен окровавленный труп Светланы Хиневич. Приехавшие по вызову милиционеры, *«увидев и там, и там ножевые повреждения, решили, что эти случаи связаны между собой, и высказали предположение, что именно Шостак совершил убийство». «Именно этой версии они придерживаются до сих пор, других версий о причастности иных лиц ни у кого не возникло»,* – констатировал защитник.

Через несколько дней Шостак пришел в себя. Работникам милиции, прибывшим к нему в больницу проводить дознание, он рассказал о своем то ли сне, то ли галлюцинации – якобы он «был в какой-то пещере с факелами, дрался с тенью». Правоохранители тут же усмотрели в этом параллель с убийством Хиневич – и это видение стало одним из основных доказательств по делу. И хотя *«в заключении третьей судебно-психиатрической экспертизы однозначно сказано, что сон Шостака про бой с тенью обусловлен употреблением вещества и не имеет ничего общего с реальностью, суд посчитал это сном в руку и вывод экспертов почему-то не учел в приговоре».*

Светлана Хиневич умерла, но конкретный момент ее смерти неизвестен до сих пор, констатировал адвокат. *«Эксперт-криминалист сказал, что время смерти исчисляется одними сутками. К тому же, он не смог определить механизм происшедшего события, последовательность действий, как преступника, так и самой потерпевшей».* Исходя из этого *«факт присутствия обвиняемого Шостака в месте и во время причинения потерпевшей тяжелых телесных повреждений остается под вопросом».*

Адвокат напомнил суду, что его подзащитный «принял 1,5 грамма неизвестного ему вещества» и задался риторическими вопросами: если Шостак в таком состоянии убивал человека, почему не оставил повсюду отпечатков пальцев и следов? Почему на нем не было обнаружено крови Хиневич? Наконец, почему обстановка в квартире не была нарушена?

По словам защитника, следующее обстоятельство, которое должно было быть доказано – это *«способ причинения смерти и факт использования определенных орудий для этого».* В данном случае *«в двух квартирах было изъято 12 ножей, которые прошли огромное число экспертиз, но на них не нашли следов биологии! Парадоксально, но в приговоре суд указывает: то, что нож не был обнаружен – не значит, что Шостак не убивал».* Получается, что из следов обвиняемого на месте преступления были найдены только два его ДНК – на подногтевом содержимом и на белье убитой. Адвокат предположил, что этот биологический материал мог появиться там из-за пользования «общим тамбуром, выключателем, дверными ручками».

Есть и второй вариант. Вскоре после случившегося *«начальник отдела управления Следственного комитета по Минску Галина Ялинская обнаружила нарушения УПК при отборе образцов и назначении экспертизы - и отменила постановления».* Кроме этого, защитника насторожили слова одной из понятых о том, что «вещдоки переносились из одной квартиры в другую» – а это является существенным нарушением законодательства.

Ни прокурор, ни суд эти доводы всерьез не посчитали.

## Осадочек остался

Мы, конечно, не суд и не следствие. Но ощущение, что тогда громкое дело списали на удачно подвернувшегося наркомана, осталось. Хотя это было очень громкое дело – смерть не самого последнего в стране человека.

Теперь судье Николаю Герменчуку предстоит Божий суд. Считается, что на нем доказательства всегда «железные».

**Анна ГОРДЫНЕЦ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 17 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

ТВОРЧЫЯ ЛЮДЗІ

## Мікола ЗАХАРАНКА:

# «Жыву ў Швабах як у цэнтры Сусвету, на вяршыні высокай гары»

*Гэтая вёска на ўзгорыстай Лагойшчыне вылучаецца хіба сваёй нетутэйшай назвай. Мільгаюць на дарожных паказальніках звыклыя воку і вуху Зарэчча, Слабада, Бяларучы, і раптам – Швабы. Але ў вёсцы з нямецкай назвай я не сустрэў ніводнага іншаземца, населена яна, як і ўсё наваколле, беларусамі. А яшчэ Швабы адметныя тым, што амаль паўстагоддзя тут жыве таленавіты пісьменнік Мікола ЗАХАРАНКА, чыімі кнігамі захапляюцца сталічныя мэтры. А раз так, то і я вырашыў напрасіцца на пагасціны ды распытаць яго пра сёе-тое.*

**– Мікола Андрэевіч, я помню, як пасля выхаду вашай першай кнігі “І тады ўдарыў бом” (2013) здзівіўся наш вядомы празаік Віктар Казько: “Захаранка… Дзе ён быў дагэтуль? Так бурна ўварваўся ў тэатр, у прозу”. Нядаўна пабачыла свет ваша новая кніга “Такі вецер, такі вецер”, аднак звестак пра вас у інфармацыйнай прасторы не пабольшала, чалавек вы рашуча непублічны. Таму раскажыце пра сябе: адкуль вы, хто па прафесіі, “дзе шляхі вашы йдуць і куды”?**

– Нарадзіўся і вырас на Палессі, у мястэчку Васілевічы, што паміж Рэчыцай і Калінкавічамі. Скончыў школу, працаваў грузчыкам, слесарам. Закончыў філфак БДУ, у 1974 годзе пераехаў на Лагойшчыну, у Швабы, быў настаўнікам рускай мовы і літаратуры. Таксама выкладаў музыку, сусветную мастацкую культуру. Потым паехаў у Сібір, працаваў у Сургуце мастаком-афарміцелем, пасля зноў настаўнічаў… Усяго і не пералічыш. У краіне такіх летуноў не любілі. А вось драматург Алесь Петрашкевіч (ён даваў мне рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў), калі пазнаёміўся з маім “паслужным” спісам, прыйшоў у захапленне: “Гэта цудоўна! Тое, што трэба сапраўднаму пісьменніку!”

**– А вы не шкадуеце, што жывяце ў вёсцы? Вось на двары зіма, Швабы снегам занесла, у печцы штовечар трэба паліць…**

– А пра што шкадаваць? Я жыву ў Швабах як у цэнтры Сусвету, на вяршыні высокай гары. Калі б вы ведалі, што гэта *такое*, зразумелі б і маё сустрэчнае пытанне да гараджан: а вы не шкадуеце, што жывяце ў горадзе? Прызнацца, я нават адчуваю нейкую віну перад сваімі дзецьмі: я тут раскашую на ўлонні прыроды, а яны гібеюць у тым Мінску...

**– Па вашых творах можна мастацкія фільмы здымаць. Калі б я быў кінарэжысёрам, то абавязкова экранізаваў бы апавяданне “Усё будзе добра”. Здавалася б, сюжэт там звычайны – міліцыя шукае ў вёсцы самагоншчыкаў, – але *як* выпісаныя людзі, *якія* трапныя дыялогі! Падобныя тэмы вам вясковае жыццё падказвае?**

– Як сказаць... Пры ўсёй сваёй прафесійнай публічнасці я ў вёсцы не надта сацыялагізаваны. Так, збоку-прыпёку. Ніколі не быў у гушчы падзей. Раней мая светлай памяці нябожчыца жонка пасвячала ў мясцовыя цікавосткі: хто ў каго нарадзіўся, хто з кім ажаніўся, хто з кім пабіўся, хто памёр... А цяпер я, бывае, са скрушным здзіўленнем даведваюся пра смерць старога знаёмца з надмагільнай таблічкі на могілках, блукаючы сярод крыжоў, дзе і дарагая мне магілка... Што да згаданага вамі апавядання, то, здараецца, жыццё бачыцца як кіно, калі ты ў глядацкай зале, а не паміж герояў на экране.

**– А ці ведаюць швабаўцы, *хто* разам з імі жыве ў адной вёсцы? Можа, нейкую асаблівую пашану маеце ад мясцовых уладаў?**

– Аднойчы ў інтэрнэце ў рубрыцы “Вядомыя людзі” прачытаў – “Мікола Захаранка”. Мой затоены ген славалюбства ўсцешыўся, але ж пачуццё справядлівасці ўзбунтавалася ў грудзях. Ды хто ён такі, гэты Захаранка, гэты палескі прыхадзень, у гістарычным пейзажы Лагойшчыны – старажытнага, казачнага, партызанскага краю?!

**– Самаіронія вам да твару.**

– Яна хіба нікому не шкодзіць. А ці шануюць?Ды ніякай асаблівай пашаны мне не трэба. Тым больш мясцовая ўлада складаецца пераважна з былых маіх вучняў. Усе ж свае (*смяецца*).

**– Дык вось чаму вы так аптымістычна глядзіце на жыццё! Помніцца, ваш знакаміты зямляк Ніл Гілевіч неаднойчы з жалем прызнаваўся, што напісаў ажно 15 п’ес, і ніводная не была пастаўлена. Хоць жыў ён, дарэчы, за 100 метраў ад Купалаўскага тэатра. Вы напісалі ўсяго дзве п’есы, і адна з іх – камедыя “Паехалі!” – у 1996 годзе ішла ў тым самым Купалаўскім. Як вам удалося прабіцца на самую прэстыжную сцэну краіны?**

– Я не прабіваўся, усё сталася выпадкова, нават міма маёй волі. У рэжысёра Андрэя Андросіка ўзнікла праблема з пастаноўкай нейкага спектакля. Тэрмінова патрэбна была п’еса. І філосаф Кім Хадзееў, з якім мы тады сябравалі, параіў Андрэю звярнуцца “да геніяльнага Колькі Захаранкі” (у Кіма ўсе сябры былі “геніяльныя”). Прыехалі да мяне ў Швабы, угаварылі – цэйтнот жа! Ну, чыстая авантура. Але мне неяк удалося напісаць тую камедыю... Што тычыцца Ніла Сымонавіча. Помніцца, у далёкім 1986 годзе ў Віцебску, у кабінеце галоўнага рэжысёра Коласаўскага тэатра Валерыя Мазынскага я пабачыў на стале п’есу Гілевіча. О, думаю, у самога Ніла Сымонавіча хаджу ў калегах! Я яму здаваў экзамен па беларускім фальклоры ў БДУ...

**– Думаю, ён ганарыўся б такім вучнем.**

– У Гілевіча такіх вучняў – хоць гаць гаці ды па галовах хадзі. А неяк пры сустрэчы спытаўся ў Мазынскага, чаму ён тады Гілевіча не паставіў? І вось што даслоўна адказаў Валерый: “Тую драматургію, якую даваў Ніл, мне хацелася занесці ў які-небудзь вясковы Дом культуры і пакласці там у куточку, пра што я яму вымушаны быў сказаць. Ён тады аказаўся надзіва паблажлівым і прызнаўся: ”А я і пісаў для самадзейнасці!”.Гілевіч проста вельмі хацеў, каб у яго поўным зборы твораў была прадстаўлена і драматургія, як у Караткевіча”.

**– А што вам запомнілася з часоў таго кароткага супрацоўніцтва з купалаўцамі?**

– Успамінаецца, напрыклад, Генадзь Аўсяннікаў, які выконваў галоўную ролю ў маёй п’есе. Дзейства адбывалася на дашчаным памосце, узнятым над сцэнай прыкладна на паўметра. А яшчэ той прысцэнак па маёй дурной прыхамаці нахілілі градусаў на 15 у бок залы. І вось на гэтым “касагоры”немалады ўжо народны артыст Аўсяннікаў болей за гадзіну прамаўляў маналогі, скакаў полечку і спяваў прыпеўкі! Я тады ўпершыню зразумеў, што значыць сапраўдны артыст. І ніхто з артыстаў не наракаў на нязручнасць. Бо мастацкая задумка ў тэатры – гэта святое! Помніцца, уразіла таксама, як артысты, сабраўшыся па-за сцэнай, ва ўсю “палівалі” нейкага рэжысёра ці драматурга. Можа,з-за гэтага самі тое месца каля кулісаў называлі “брахалаўкай” *(смяецца)*.

**– А чаму камедыя “Паехалі!” пратрымалася ў рэпертуары ўсяго некалькі сезонаў?**

– Нехта ўбачыў там пэўныя алюзіі. Хоць я ў п’есе не меў на ўвазе нічога “крамольнага”, рэжысёр напрыдумляў розных “намёкаў”. Паставіў на сцэне вусатую скульптуру, да якой гераіня артысткі Наталлі Качатковай непаважліва адносілася. А потым на падмосткі (мастак Барыс Герлаван зрабіў фантастычна-прыгожыя дэкарацыі) з прыцемкаў выходзілі кабеты і ва ўнісон стагналі: “Ба-а-цька, ро-о-дны, калі?!”.Тады яшчэ на тэатральнай сцэне дапускаліся пэўныя вольнасці, можна было дурэць патроху. І ўсё ж спектакль сталі ўсё радзей ставіць у рэпертуарную сетку, а потым ціхенька знялі.

**– Як вы ўспрынялі падзеі ў Купалаўскім ў 2020 годзе?**

– Як бяду, як трагедыю. Магчыма, непазбежную, магчыма, неабачліва разыграную, але трагедыю, і зусім не аптымістычную. Намоленыя сцены пакінулі творчыя людзі, аб’яднаныя традыцыяй, сваёй прыналежнасцю менавіта да *гэтага* тэатра. Што гэта, калі не бяда? Гледачы іх любілі за талент – кожнага паасобку, але і ўсіх разам – менавіта як купалаўцаў.Дзякуй Богу, што яны пакуль не разбегліся, не згубілі творчага адзінства, робяць пастаноўкі, ды ўсё ж... Дакладна ведаю, што большасць купалаўцаў, якія сышлі, балюча настальгуюць менавіта *па будынку*.

**– А як ставіцеся да цяперашняга тэатра?**

– Я не быў на яго спектаклях. Што пэўнага можна сказаць пра яшчэ няпэўную з’яву? Відавочна, гэты тэатр на стадыі станаўлення, творчага і кадравага ўладкавання. Чытаю шмат крытыкі ў яго адрас, у тым ліку ад людзей, якім давяраю. Але і пабойваюся падпасці пад уплыў дробязнай зларадснасці. Хочацца верыць, што будзе як у той прыказцы: на жывой касці мясу – нарасці. Абы яна была жывая, тая костка.

**– У выдатнага нашага празаіка Івана Пташнікава (між іншым, ён таксама чалавек лагойскі) ёсць апавяданне “Пагоня” – пра лася, якога даганяюць ваўкі. Там усё з такім веданнем выкладзена, быццам Іван Мікалаевіч у мінулым жыцці ласём быў. У вас ёсць надзвычай шчымлівыя вершы пра коней, напісаныя (увага!) ад іх імя. Як вам удаецца так пераўвасабляцца?**

– Здаецца, ніякіх асаблівых высілкаў над сабой не рабіў... У гэтым сэнсе цікава паназіраць за дзецьмі: яны з сабакамі, з катамі размаўляюць на роўных – натуральна, свабодна, з любоўю. Мяркую, многія людзі ад нараджэння схільныя да “чалавечага” паразумення з братамі нашымі меншымі.

**– У кнігу “Такі вецер, такі вецер” увайшло і некалькі апавяданняў на васілевіцкай трасянцы (Гомельскі рэгіён). Уяўляю, што пачалося б у беларускай літаратуры, калі б нашы пісьменнікі пісалі кожны на сваім дыялекце – Васіль Быкаў на віцебскім, Аляксей Карпюк – на гродзенскім, Ніна Мацяш – на палескім… На мой погляд, трасянка – гэта такі сабе траянскі конь русіфікацыі. Навошта цягнуць яе ў літаратуру?**

– Няхай сабе і конь. Упэўнены, названыя вамі пісьменнікі ўз’ехалі б на беларускі Парнас і на такім кані. Але ваша праўда – што потым? Што сталася б з беларускай *нацыянальнай* літаратурай? Так, згодны, моўны “сепаратызм” непажаданы ў нацыянальнай літаратуры. І ўсё ж трасянка, пагадзіцеся, – рэальны факт нашага жыцця. І што было б, калі б літаратурныя героі, скажам, Івана Мележа, загаварылі на літаратурна ўнармаванай мове? Напрыклад, проза майго земляка з Васілевіч Івана Навуменкі значна пацярпела ад такой моўнай уніфікацыі. Васілёўцы чыталі Навуменку, захоплена пазнавалі свае ваколіцы, а сябе – не пазнавалі.

**– Мяркуючы па “Фэйсбуку”ваш самы блізкі сябра – паэт Пятро Кошаль (родам са Случчыны, жыве ў Маскве). Масквічы і так фанабэрыстыя, а Кошаль яшчэ і зяць былога першага сакратара ЦК КПБ Слюнькова. На вашай дружбе гэта неяк адбівалася?**

– Яшчэ як! Пецечка прыязджаў у Мінск, і мы маглі не хавацца ад міліцыі з бутэлькай “чарніла” ў якім-небудзь скверыку, а чыннаспакойна заходзілі ў кавярню на праспекце – сябра частаваў! Помню візіт Андропава ў Мінск. Я, Кошаль і Кім Хадзееў стаялі на рагу плошчы Якуба Коласа і праспекта. І раптам з-за філармоніі выехаў картэж чорных урадавых машын і скіраваўся ў наш бок. Бачу, нешта Пеця занепакоіўся і схаваўся за маю спіну. Я азірнуўся: чаго ты? “Стой на месцы!”, – просіць. І тут да мяне дайшло: ад Слюнькова схаваўся! Чаго ты баішся, кажу, хто цябе сярод прахожых убачыць? “Не сумнявайся, Коля, *яны* ўсё бачаць”. Так што я быў непасрэдным удзельнікам гістарычнага эпізода. Не, Кошаль не фанабэрысты, ён смешны і абаяльны паэт.

**– Ведаю, што ў вас двое дзяцей – сын і дачка. Калі не памыляюся, яны вам і з выданнем кнігі дапамаглі. А да бацькі ў родную вёску наведацца не забываюць?**

– Не забываюць. Наташа (яна працуе галоўным рэдактарам часопіса “Роднае слова”) улетку іградкі садзіць – на палове соткі *(смяецца)*. Сын Павел – галоўны гукарэжысёр у тэатры.А кнігу паспрыяў выдаць мой сябар, цяпер маскоўскі бізнесмен Леў Гендэлеў. Сам мяне знайшоў і паспрыяў. Ну і дзеці ўбаку не стаялі, асабліва Наташа. Я сам і пальцам не варухнуў бы.

**– Дзякуй вам за гутарку, самаіранічны аптыміст з вёскі Швабы”!**

– Ну, аптымізм у мяне ад нараджэння, гэтага на адымеш. А самаіронія? Цяперашні час сам яе патрабуе. Просіць і ўмольвае: людцы добрыя, не будзьце панылымі, ратуйцеся посмешкай над сабой цяпер. То, можа, пазней не прыйдзецца над сабой горка плакаць...

**Міхась СКОБЛА.**







**На фота: 1. Мікола Захаранка.**
**2. Дома. Свая хатка – як родная матка...**
**3. З Кімам Хадзеевым у лагойскім лесе. 1994 год.**

